Галерэя сьветлых галоваў

Стар. 2

# РУНЬ

Беларуская газэта ў Вільні

Vincent ŽUK-HRYŠKIEVIČ
Moj šlach u VBH

Стар. 7

ISNN 1392-7671 № 79 Лістапад 2016 г.

# Скарынаўскія чытаньні ў Вільні

*Ларыса ШАПАВАЛАВА,*
*vilnia-by.com*




*Фота Л.Шапавалавай, vilnia-by.com*

**Віленскі гарадзкі клуб "Сябрына", Інстытут літоўскай мовы і Асацыяцыя беларусістаў Літвы разам з амбасадай Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы і Віленскім гарадзкім самакіраваньнем 18-19 лістапада 2016 г. правялі Скарынаўскія чытаньні "Кніжная традыцыя Вялікага Княства Літоўскага", прысьвечаныя 525-годзьдзю беларускага першадрукара і заснавальніка першай у Вялікім Княстве Літоўскім друкарні Францішка Скарыны. Яшчэ адной нагодаю для мерапрыемства стала 500-годзьдзе першай выдадзенай ім у Вільні друкаванай кнігі.**

Скарынаўскія чытаньні распачаліся традыцыйным ускладаньнем кветак да мэмарыяльнай дошкі, прысьвечанай першадрукару. Дом знаходзіцца на скрыжаваньні вуліцаў Вялікай (Didžioji g.) і Шкляной (Stiklių g.) — мяркуецца, менавіта тут Скарына надрукаваў "Малую падарожную кніжыцу" (1522 г.) і "Апостал" (1525 г.). І менавіта пра гэты дом ён напісаў: "Надрукавана ў доме паважанага мужа, слаўнага і вялікага бурмістра горада Вільні Якуба Бабіча".

У афіцыйнай частцы Скарынаўскіх чытаньняў бралі ўдзел прадстаўнікі беларускай амбасады ў Літве і супрацоўнікі віленскага гарадзкога самакіраваньня. Спадарыня Вілма Шылалене, намесьніца дырэктара адміністрацыі Віленскага гарадскога самакіраваньня, падкрэсьліла, што "мы маем шчасьце жыць у шматкультурным і шматрэлігійным горадзе і плануем надалей разьвіваць яго шматкультурнасьць. Мы хочам, каб у гэтым горадзе маглі вольна жыць і тварыць прадстаўнікі самых розных нацыянальнасьцяў".

Падчас экскурсіі па Віленскім унівэрсітэце, якая была часткай праграмы Скарынаўскіх чытаньняў, удзельнікам канферэнцыі пашчасьціла пабачыць знакаміты "Апостал" – адзіны ў Літве асобнік, які захоўваецца ў бібліятэцы Віленскага ўнівэрсытэту.

Першы дзень канферэнцыі закончыўся ўрачыстай імшой памяці Францішка Скарыны ў касьцёле Сьв. апостала Балтарамея.

Непасрэдна чытаньні праходзілі на другі дзень у Клубе пісьменьнікаў Літвы. Удзельнікі слухалі даклады, прысьвечаныя як Францішку Скарыне, так і кніжнай культуры ўвогуле.

Дырэктар Бібліятэкі Акадэміі Навук Літвы імя Ўрублеўскіх, доктар гуманітарных навук, дацэнт Сігітас Нарбутас (Sigitas Narbutas) выступіў з дакладам "Русінская Біблія і яе сучасьнікі – найбольш ранънія выданьні Літвы", у якім разглядае яшчэ 53 кнігі, якія зьявіліся ў тыя-ж часы, што і скарынаўскія. Дасьледчык вывучае кнігі, што выходзілі ў розных месцах, але сваім зьместам так ці йнакш зьвязаныя з Вялікім Княствам Літоўскім.

Прафэсар Адам Мальдзіс засяродзіўся на маладасьледаваных момантах з жыцьця Францішка Скарыны ў Вільні ў 1520-х гадох і яго датычнасьці да распрацоўкі Першага Статута ВКЛ (1529 г.).

Раман Лізагубаў (Расея), зьбіральнік антыкварных кніг, распавёў пра тое, якія кнігі кірылічнага друку XVI – XVIII стст. Вялікага Княства Літоўскага зьяўляюцца на антыкварна-букіністычным рынку Расеі і колькі могуць каштаваць.

Супрацоўнікі Музэю беларускага кнігадрукаваньня ў Полацку Вера Ашуева і Натальля Анучына расказалі пра дзейнасьць Полацкага гісторыка-культурнага музэю-запаведніка.

Цікавым быў даклад дацэнта пражскага ўнівэрсытэту Ільлі Лямешкіна, які дасьледуе жыцьцё Скарыны, дакладней, гісторыю, зьвязаную з сынамі першадрукара — Францішкам і Сімяонам.

Канфэрэнцыі, прысьвечаныя беларускаму першадрукару Францішку Скарыне, праходзяць у Вільні ня першы раз і могуць стаць добрай традыцыяй. Прынамсі, у наступным годзе плянуецца правесьці яшчэ адну канфэрэнцыю, прысьвечаную 500-годзьдзю выхаду ў сьвет скарынаўскай "Бібліі" (1517 г.).

# Галерэя сьветлых галоваў

*„Niekas tiek nepasitarnavo žmogui,*
*niekas neiškėlė taip aukštai jo dvasios*
*ir niekas tiek nekentėjo kartu su žmogumi*
*kaip knyga“*
***Justinas MARCINKEVIČIUS***
*“Dienoraštis be datų“* [1]



Фота Л.Шапавалавай, vilnia-by.com

**Як-бы ў працяг леташняй Міжнароднай навуковай канфэрэнцыі, прысьвечанай 525-годзьдзю беларускага першадрукара, заснавальніка першай у Вялікім Княстве Літоўскім друкарні і выдаўца першай ня толькі на тэрыторыі Княства, але і ўсёй Усходняй Эўропы кніжкі Францішка Скарыны, сёлета 18-19 лістапада ў Вільні адбыліся Скарынаўскія чытаньні пад аднайменнаю назовою “Кніжная традыцыя Вялікага Княства Літоўскага”.**

І хоць надвор'е выдалася не сказаць каб добрае, каля трох дзясяткаў людзей, неабыякавых да сваёй гісторыі і культуры, гісторыі і культуры нашага горада і ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, да мэмарыяльнай дошкі нашаму славутаму суайчынніку, устаноўленай у 1990 годзе на доме № 19А па вуліцы Вялікай (Didžioji g.) сабралася. А калі ўлічыць, што гэта была пятніца – дзень працоўны, то ня так ужо й мала.

Роўна ў 12.00, як і было прадбачана, лёгкую гаману парушыў меладычны сьпеў удзельніцаў камэрнага моладзевага хору “Melika“ і фальклёрнага ансамбля “Želmuo“ (па-беларуску “Парастак”), выпускніцаў Віленскай акадэміі мастацтваў Катрыны Шашалгітэ і Дэймы Жуклітэ-Гаспярайтэне. У іх выкананьні прагучалі дзьве народныя песьні. Адна – напачатку, другая – у канцы цырымоніі.

Гімназісты Віленскай гімназіі імя Францыска Скарыны Іван Зотаў і Караліна Савіцка ўсклалі да дошкі прыгожы вянок зь кветак. Кветкі да дошкі былі ўскладзены таксама Віленскім гарадзкім самаўпраўленьнем і прыватнымі асобамі.

Са словамі ўдзячнасьці на адрас Францішка Скарыны і тых, хто захоўвае памяць пра яго, зьвярнулася да прысутных дарадца-пасланьнік амбасады Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы сп-ня Людміла Татарыновіч. Пасьля яе слова ўзяла намесьніца дырэктара адміністрацыі Віленскага гарадзкога самаўпраўленьня сп-ня Вілма Шылалене, якая адзначыла, што Вільня заўсёды вызначалася сваёй поліэтнічнасьцю і разнастайнасьцю рэлігійных канфэсій, і што гэтая акалічнасьць, з аднаго боку, зьяўляецца прадметам гонару жыхароў горада, зь іншага – накладвае на іх пэўную адказнасьць за захаваньне гэтай асаблівасьці.

Пасьля ўскладаньня кветак удзельнікі чытаньняў накіраваліся ў Віленскі ўнівэрсытэт, дзе іх чакала цікавая экскурсія, якую з любоўю правяла на выключна добраахвотных умовах сп-ня Ніёле Гінётэне. Яна пазнаёміла экскурсантаў з даўняй і далёка не бясхмарнай гісторыяй старэйшай вышэйшай навучальнай установы краіны, якая на працягу звыш 175 гадоў захоўвала за сабой статус самага ўсходняга фарпосту ўнівэрсытэцкай думкі, маляўніча апісала найбольш значныя падзеі з жыцьця ўнівэрсытэту, расказала пра сучасны стан храма навукі.

Але асабліва ўзрушыла нечаканая сустрэча з адзіным у Літве скарынаўскім выданьнем “Апостала” (Вільня, 1525), які захоўваецца ў бібліятэцы ўнівэрсытэту і які, з ласкавай згоды генэральнай дырэктаркі бібліятэкі сп-ні Ірэны Крывене, адмыслова быў прадэманстраваны экскурсантам, дзякуючы чаму яны змаглі ня толькі ўбачыць сьвятыню, што налічвае ўжо блізу 500 гадоў, але й дакрануцца да яе.

Шмат добрых слоў сказаў падчас урачыстай імшы, прысьвечанай сьветлай памяці Францішку Скарыну, адміністратар касьцёла Сьв. апостала Барталамея ў Вільні ксёндз Арыюш Малыска, на думку якога, ня так важна, кім усьведамляў сябе наш славуты суайчыннік – праваслаўным, каталіком ці пратэстантам, галоўнае, што ён быў хрысьціянінам і кіраваўся ў сваім жыцьці ідэямі гуманізму і любові да бліжняга.

На наступны дзень – 19 лістапада – роўна а 10-й, у залі Клубу пісьменьнікаў Літвы, што на вуліцы К. Сірвідаса (K. Sirvydo g.), 6, прагучалі першыя акорды музычнага прывітаньня Далі Шашалгене (скрыпка) і Сауле Лапенайтэ (фартэпіяна), якія выканалі для ўдзельнікаў чытаньняў тры мініяцюры Роберта Шумана (Warum; Am camin i Meditation), пасьля якога гімназістка Віленскай гімназіі імя Францішка Скарыны прачытала выдадзены асобнай кніжкай у 2014 годзе ў Менску на 64 мовах народаў сьвету верш першадрукара, прасякнуты любоўю да Радзімы і ўсяго люду паспалітага, то бок да звычайных, простых людзей, якія “...дзе нарадзіліся і ўскормлены з ласкі Божай, да таго месца вялікую любасьць маюць”.

З прывітальным словам да ўдзельнікаў чытаньняў зьвярнуліся: дарадца-пасланнік амбасады Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы сп-ня Людміла Татарыновіч, галоўны спэцыяліст Дэпартамэнту нацыянальных меншасьцей пры Урадзе Літоўскай Рэспублікі сп-ня Аўшра Шакайтэне і намесьніца дырэктара па навуковай працы Інстытуту літоўскай мовы сп-ня Віялета Мяйлюнайтэ, з вуснаў якіх прагучала шмат добрых слоў, цікавых выказваньняў і пажаданьняў плённай працы чытаньням.

Першым узяў слова доктар гуманітарных навук сп. Сігітас Нарбутас (Вільня, Літва), які прысьвяціў сваё выступленьне найбольш раньнім выданьням Літвы і вельмі грунтоўна разгледзеў, наколькі гэта было магчыма, выданьні, якія

---

1 *Ніхто гэтак не паслужыў чалавеку,*
*Ніхто ня ўзьняў гэтак высока ягонай душы*
*І ніхто гэтак не пакутаваў разам з чалавекам*
*Як кніга*
***Юсьцінас МАРЦІНКЯВІЧУС***
*“Дзёньнік бяз датаў”*
***Вільня, Vyturys, 1999, стар. 61***





ўбачылі свет прыблізна ў той-жа час, што й Біблія Скарыны.

Шмат цікавых думак і меркаваньняў на прадмет магчымай датычнасьці Францішка Скарыны да распрацоўкі першай рэдакцыі Статуту Вялікага Княства Літоўскага выказаў доктар філалагічных навук сп. Адам Мальдзіс (Мінск, Беларусь).

Цікавае паведамленьне на тэму "Кнігі кірыліцкага друку XVI – XVIII стст. Вялікага Княства Літоўскага на антыкварна-букіністычным рынку Расеі" зрабіў член Нацыянальнага саюза бібліяфілаў сп. Раман Лізагубаў (Саратаў, Расея).

Супрацоўніцы Музэю беларускага кнігадрукаваньня ў Полацку сп-ня Вера Ашуева і сп-ня Натальля Анучына (Полацк, Беларусь), азнаёмілі прысутных з гісторыяй і сучаснасьцю музэю, расказалі пра выданьні Беларускага інстытута навукі й мастацтва, прысьвечаныя Францішку Скарыну, якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музэю-запаведніка.

Доктар гуманітарных навук сп-ня Людміла Гарбуль (Вільня, Літва), родам, дарэчы, зь Беларусі, азнаёміла ўдзельнікаў чытаньняў са сваімі напрацоўкамі ў галіне віленскіх выданьняў Францішка Скарыны – папярэднікаў навучальных кніг ва ўсходніх славянаў.

Сп-ня Лілія Плыгаўка (Вільня, Літва), на час правядзеньня Скарынаўскіх чытаньняў кандыдат, а зараз ужо доктар філалагічных навук, з чым мы яе ад душы й віншуем, падзялілася сваімі меркаваньнямі на прадмет беларускай культурнай спадчыны ў Літве і яе захаваньня.

Спэцыфічным, але ад таго ня менш цікавым, было паведамленьне доктара гуманітарных навук сп-ні Марыны Чысьцяковай (Вільня, Літва): "Аб перакладах з латыні ў Рэчы Паспалітай у XVII ст. (цыкл паданьняў з "Лугу духоўнага" Іаанна Моска ў музэйнай рэдакцыі Пролага".

Вельмі дарэчы аказаўся ў Вільні й доктар філасофскіх навук сп. Ільля Лямешкін (Прага, Чэхія), які надзвычай арганічна ўпісаўся ў агульны кантэкст чытаньняў і запоўніў паўзу, што ўтварылася было ў іх у сувязі зь немагчымасьцю прыехаць для ўдзелу ў чытаньнях дактаранта Варшаўскага ўнівэрсытэту сп. Віктара Корбута – паведамленьне "Францішак Скарына і Прага 1541 г.", якое асьвятляе галоўным чынам апошнія гады жыцьця Францішка Скарыны і лёс яго дзяцей, было успрынята ўдзячнай аўдыторыяй на ўра.

І замкнуў гэтую галерэю сьветлых галоваў і аўтараў новых адкрыцьцяў у галіне скарыназнаўства вядучы чытаньняў, доктар гуманітарных навук сп. Сяргеюс Цемчынас (Вільня, Літва), які азнаёміў прысутных з "Ерэтычнай гравюрай Францішка Скарыны ("Бог у раі")", і дзякуючы якому чытаньні прайшлі на высокім арганізацыйным узроўні, за што я і, спадзяюся, усе ўдзельнікі чытаньняў, шчыра яму ўдзячны.

Гэтаксама хачу выказаць праз газэту шчырую падзяку фундатарам чытаньняў – Дэпартамэнту нацыянальных меншасьцей пры Ўрадзе Літоўскай Рэспублікі, Амбасадзе Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы, Віленскаму гарадзкому самаўпраўленьню, Саюзу пісьменьнікаў Літвы, Клубу пісьменьнікаў, Бібліятэцы Віленскага ўнівэрсытэту, а таксама радыёперадачы "Тутэйшы час" (рэдактар і вядучы сп. Андрусь Старавойтаў), тэлевізійнай перадачы "Віленскі сшытак" (рэдактар і вядучы сп. Сяргей Гаўрыленка, апэратар сп. Войцех Каркут) Літоўскага радыё і тэлебачаньня і Саюзу журналістаў Літвы, якія аказалі чытаньням інфармацыйную падтрымку і забясьпечылі іх асьвятленьне ў сродках масавай інфармацыі.

Асобна хачу падзякаваць за ўдзел у чытаньнях вучням і настаўнікам Віленскай гімназіі імя Францішка Скарыны, сп. Вадзіму Вілейту за бездакорны вусны пераклад зь літоўскай мовы на беларускую і наадварот, членам "Сябрыны" сп-ні Веры Віршычэнэ і сп-ні Ноне Таракявічэнэ, а таксама нашай госьці з Полацка сп-ні Алене Ізергінай, дзякуючы якім удзельнікі чытаньняў мелі магчымасьць выпіць падчас перапынкаў кубачак гарачай кавы ці гарбаты.

Шчыры беларускі дзякуй і нізкі паклон усім!

*Старшыня беларускага клуба "Сябрына" ў Вільні*
*Валянцін СТЭХ*





# Sprava kantrastu



**Vilnia nieparyŭna spałučanaja z usimi chvalami biełaruskaj emihracyi. Isnuje try typy tułahaŭ - pieršyja pryjazdžajuć siudy adniekul, druhija kudyści vyjazdžajuć, trecija źjazdžajuć, kab viarnucca ŭ hety viečny horad. Raźvitańnie z Radzimaj, azyl stali ŭžo nieadjemnaj častkaju našaj kultury, tamu niekalki publikacyjaŭ my pryśviačajem emihranckaj temie. Hetym razam našym hierojem źjaŭlajecca paet i pierakładčyk, vilančuk sa stažam ad smutna viadomych padziejaŭ napačatku studzienia 1991 h., Aleh Minkin.**

**— Spadaru Alehu, nadoječy Vy na niekalki hadoŭ źnikli ź Vilni. Kudy zanosiŭ Vas los?**

— Na praciahu čatyroch hadoŭ ja pracavaŭ na budoŭlach u Maskvie. Praktyčna hastarbajt. Ja zajmaŭsia elektrykaj, elektramantažom. Maja adukacyja - inžynier-elektryk, voś jana mnie i spatrebiłasia. Tut, u Vilni, ja taksama apošnija hady, moža, čatyry-piać hadoŭ užo pracavaŭ na budoŭli tym samym elektrykam.

**— Bolšaść biełarusaŭ viedaje vas jak paeta. Čamu tak składałasia, što litaratar raptam z kajłom u rukoch vypraviŭsia ščyravać na budoŭlu?**

— Paezijaj, tym bolš biełaruskaj, zarabić hrošy niemahčyma. Viadoma, možna prystasavacca niejak, jość-ža roznyja koły, roznyja hranty. A ja ŭvohule rasčaravaŭsia ŭ hramadzkaj dziejnaści. Doŭha zajmaŭsia, hazetu niekali vydavali, a paśla rasčaravaŭsia. Kali zajmaješsia hramadzkaj dziejnaściu, to ŭvieś čas maješ niejki kantakt z movaj, sa słovami, i niama hetkaha kantrastu, a kali, naprykład, prosta zajmaješsia fizyčnaj pracaj, zrešty, nieabaviazkova fizyčnaj, prosta dalokaj ad paezii, to tady, kali pierachodziš na tvorčyja spravy, paezija lepš pišacca, lepš adčuvajecca, kali navat praca nie źviazanaja sa słovam. Heta kantrast: kali ty prosta na budoŭli pracuješ fizyčna, treba padklučać mazgi. Elektryka - sprava składanaja, ale heta zusim inšaja sfera, i potym, kali ty pierachodziš u sferu paezii, litaratury, ty bolš jarka adčuvaješ słova, tamu mnie hetaja padvojenaść dapamahaje ŭ tvorčych spravach, tak što ja zaraz admoviŭsia całkam ad jakoj-kolviečy biełaruskaj hramadzkaj dziejnaści.

**— U čym pryčyna admaŭleńnia? Rasčaravańnie nastała, ci prosta źjaviłasia žadańnie addalicca ad abrydłych kłopataŭ?**

— Viek u mianie taki, što ŭžo pačynaješ canić toj čas, jaki zastaŭsia, i niejak jaho chočacca ŭžo vykarystać jak najbolš efektyŭna. Navat pracujučy na budoŭli. Heta sprava kantrastu.

## Žyŭ jak uzbek

**— Kažuć, što kala miljonu biełarusaŭ jeździć pracavać za miažu, i balšynia ź ich znachodzicca na rasiejskich budoŭlach. Ci praŭda heta?**

— Ich tam nia bačna. Pa-pieršaje, jany źnieśnie mała čym adroźnivajucca ad rasiejcaŭ i nikoli nidzie nie abviaščajuć, što jany - biełarusy. Ja ich adroźnivaju prosta tamu, što maju tonki słych i mahu adrazu skazać, što čałaviek ź Biełarusi, navat pavodle akcentu. Faktyčna biełarusaŭ tam nia bačna. Jak byccam ich i niama. A astatnija nacyjanalnaści, narodnaści trymajucca razam kučna, i tamu ich tam možna adroźnić ad tytulnaj nacyi.

**— Z kim lepš pracavać siarod hetkaha Babilonu?**

— Ja stvaryŭ bryhadu elektrykaŭ-mantažnikaŭ z Kirgizii. Kirgizy - heta asnoŭnaja nacyjanalnaść, jakuja na budoŭli možna sustreć. Ja mienavita pra budoŭlu budu kazać. Inšyja sfery hastarbajterskaj dziejnaści taksama poŭniacca imi, ale na budoŭlach asnoŭnyja siarednieazijackija narodnaści - heta kirgizy, uzbeki i tadžyki. Kazachaŭ i turkmienaŭ u Maskvie praktyčna niama. Jany bolš zamožna žyvuć i tam nie pracujuć. Najbolš, viadoma, u Maskvie uzbekaŭ. Heta vialikaja nacyja, zdajecca, sarakamiljonnaja, ich tam najbolš. I ja, papracavaŭšy tam dva pieršyja hady, vyrašyŭ, što najbolš mnie padychodzić bryhada z Kirgizii. Ja, darečy, adroźnivaju kirgiza ad uzbeka adrazu pa źnieśnim vyhladzie.

**— Jakim čynam?**

— Skažam, kali zboku, heta niešta takoje siaredniaje pamiž manhałoidnymi rysami i tadžykami. Kirgizy čystyja manhałoidy, jak i kazachi, naprykład, nu i pa charaktary jany, choć i bolej musulmanie, majuć niešta takoje ad budyzmu, ad takoha voś śvietaŭsprymańnia. Kirgizy bolš raskavanyja, kamunikabielnyja, čym uzbeki, jany bolš adkazna staviacca da pracy. Prynamsi, apošni hod ja ŭžo fizyčna praktyčna nie pracavaŭ, tolki hałava pracavała. Rabiŭ takija najbolš składanyja pracy z elektrykaj: zborka ščytkoŭ, składanaha abstalavańnia i hetak dalej. A pieršyja hady ja vašavaŭ, jak i ŭsie, z perfarataram. Prajšoŭ hetuju praktyku, prynamsi, adčuŭ hetuju pracu na budoŭli ŭ Maskvie. Jana vielmi adroźnivajecca. Specyfika tam inšaja, čym u Litvie, i kali ja vyvučyŭ kirgizaŭ, jak pracavać, to ja vykarystoŭvaŭ litoŭskija navyki i jašče dva hady praktyki ŭ Maskvie, to bok na sabie adčuŭ, što značyć pracavać mienavita z perfarataram, z bałharkaj, macavać tam drot i hetak dalej.

**— Čym-ža adroźnivajucca asablivaści pracy na budoŭli ŭ Litvie ad rasiejskich umovaŭ?**

— Kali brać formułu dziejnaści, to ŭ Litvie jość specyfičnyja, admysłovyja firmy, jakija zajmajucca elektrykaj, santechnikaj ci kamunikacyjaj. U Maskvie takich firmaŭ niama. Tam prosta elektryka ŭsia stvarajecca ŭ vialikich budaŭničych firmach. I tamu tam adčuvaješ siabie niejkim desantnikam. Praktyčna tam prosta hastarbajt biez usialakich pravoŭ, časta tam biez pracoŭnych damovaŭ, prosta z vulicy prychodziš, najmaješsia na pracu i pracuješ. Specyfika maskoŭskaj budoŭli takaja, što tam prychodzić kompleksnaja bryhada, jakaja robić abjekt "pad kluč". Jany mohuć usio

zrabić. Ad pačatku da kanca robiać usio, adzinaje, zaprašajuć elektryka i santechnika. A tak robiać usio sami. Ja časam traplaŭ na abjekty, jakija rabili bryhady ź Biełarusi. Tak što sustrakalisia, pierasiakalisia našyja šlachi. Usie pieraličanyja vyšej nacyjanalnaści, moža być, biełarusaŭ tolki nie zaŭvažna, žyvuć vielmi kupna. Trymajucca adzin adnaho. Uziać, skažam, uzbekaŭ. Jany redka kali žyvuć na arandavanaj kvatery ci tam u internatach. Zvyčajna ŭzbeki-budaŭniki žyvuć na abjektach. Redka tolki vyjazdžajuć da svaich siabroŭ u horad. Jany žyvuć na budoŭli: adpracavali, tut-ža načujuć, śpiać, siłkujucca. I adzinaje, kudy ich zanosić, - heta bližejšy supermarket. I dla ich heta - usia Maskva. Absalutna nie rastvarajucca ŭ maskoŭskim žyćci. Kali jany pracujuć, to ŭklučajuć mahnitafony i z ranku da viečara słuchajuć uzbekskija ci kyrhyzskija narodnyja pieśni. Hetyja nacyjanalnaści vielmi izalavana tam žyvuć. Ja taksama, jak tyja ŭzbeki, kirgizy, žyŭ na budoŭli. Litaralna! Asabliva kali abjekt pačynajecca, brud, cemient pieršapačatkova ŭsiudy. Vymiataješ padłohu, kidaješ matrac... Ale zvyčajna bryhada, kali pačynaje pracavać, robić duš - heta abaviazkova ŭ Maskvie. Tut takoha niama. Tam prybiralniu, duš abaviazkova robiać. Elektraplitki staviać. Tak što ja žyŭ jak uzbek, jak kirgiz, dva hady. Potym užo, jak pačali źjaŭlacca hrošy, ja zdymaŭ pakoj u trochpakajoŭcy. Płaciŭ stolki-ž, kolki ŭ Vilni płaciŭ-by za cełuju trochpakajoŭku. Što tyčycca hrošaj, tam pracy šmat, ale vybić hrošy hastarbajteru ŭ pracadaŭcy vielmi ciažka. Tam jość całyja katehoryi ludziej, hetak zvanych "pasiarednikaŭ", jakija mienavita nacelenyja na toje, kab padmanuć: biaruć hastrabajteraŭ, to bok zaklučajuć damovy z haspadarami, pichajuć tudy hastarbajteraŭ, dajuć, kab nia zdochli z hoładu, nievialikija hrošy, potym chapajuć usiu sumu i źnikajuć, ci prosta nie addajuć, tak što tam prablema chutčej nie pracu znajści, a zabrać zaroblenyja hrošy. I firmy takija jość, jakija nacelenyja na toje, kab ekspluatavać hastarbajteraŭ. Heta žachliva. Ja pokul pryzvyčaiŭsia, a heta było ciažkavata pryzvyčaicca da takoha. U Litvie ja pacisnu ruku haspadaroŭ i dumaju, što kali niešta ja zrablu, to ja hrošy svaje atrymaju, a tam biareš abjekt i adrazu viedaješ, što ŭsio ty nia voźmieš, ale niejki pracent atrymać možna. Voś kali ja hetuju specyfiku zrazumieŭ, ja pačaŭ trochi zarablać, a tak u pralocie byŭ pieršyja dva hady. Heta zvyčajnaja sytuacyja: ty pryjechaŭ i nia maješ nijakich pravoŭ. Ciabie možna zapichnuć na abjekt, prymusić pracavać, a hrošy pakłaści ŭ kišeniu, i ty mianie ničym nie dastanieš. Možna pabić, viadoma, tam poŭna takich vypadkaŭ. Nijakaj damovy, aproč jak na słovach, niama. Prosta ty jak pryjšoŭ z vulicy ź instrumantam, hetak i pracuješ.

## U abdojmy da Vilni

**— Zdajecca, z hetkimi pracoŭnymi ŭmovami daŭno nastaŭ čas Alehu Minkinu viarnucca "ŭ abdojmy da Vilni", nyrnuć "u cichuju zavadź dvara"?**

— Pačuććio ekzotyki užo źnikła ŭ Maskvie, heta horad-sprut, jaki vysmoktvaje žyćcio ź ludziej. Tam hod idzie za dva, kali na budoŭli pracavać. Tam jość katehoryi ludziej, jakija dobra žyvuć, naprykład, jak syr u masle. Ale, pa vialikim rachunku, tam horad strašenny. Pieršyja dva hady sapraŭdy heta była całkavitaja zaniataść na budoŭli, a potym ja stvaryŭ bryhadu z kirgizaŭ, heta maje vučni, darečy, z vyšejšaj adukacyjaj - adzin fizyk, druhi fizkulturnik, braty, - vyvučyŭ ich na elektrykaŭ, i apošnija dva hady ja byŭ praktyčna na ŭzroŭni praraba-bryhadzira: daŭ zadańnie, pabyŭ, prakantralavaŭ pracu - i ja volny čałaviek. Tak što času volnaha apošnija dva hady mieŭ užo dastatkova. Adzinaje, što, pryjechaŭšy siudy, nakinuŭsia na knižki, bo tam usie matarjały davodziłasia vyciahvać z kamputara, a heta, viadoma, nia toje. A zaraz, pryjechaŭšy dachaty, ja čytaju biełaruski falklor, chrestamatyi. U mianie šmat starych knih. Česłaŭ Miłaš kazaŭ, što jość takija ludzi, jakija mohuć žyć izalavana ad movy i ŭsio roŭna nie hublać z movaj kantakt. Ja, napeŭna, da takoj katehoryi ludziej naležu, ale, kab nie hublać z movaj poviazi, ja pisaŭ vieršy, ale najbolš mnie dapamahała praca nad "Słoŭničkam rasiejska-biełaruskich adpaviednikaŭ".

**— Z čaho ŭźnik hety słoŭnik?**

— Kožny čałaviek, jaki piša pa-biełarusku, robić niejkija zapisy. Da taho ja zdaŭna čytaŭ dyjalektyčnyja słoŭniki. Pieršy słoŭnik ja skłaŭ užo hadoŭ dziesiać tamu, u internecie padviesiŭ, - heta "Słoŭnik ryfmaŭ biełaruskaj movy". Kali ja jaho składaŭ, to sam byŭ nie abaznany ŭ biełaruskaj movie. Ja naciahaŭ u hety słoŭnik šmat rasiejanizmaŭ praz savieckija słoŭniki, prosta niekrytyčna pastaviŭsia: ja braŭ słoŭnik, prosta vypisvaŭ adtul słovy i ryfmavaŭ ich. Viadoma, ja imknuŭsia čytać žyvyja biełaruskija tvory, ale potym zrazumieŭ, nakolki ludzi zrusifikavanyja: i ja, i ty i ŭsie astatnija, bo my spačatku dumajem pa-rusku, potym pierakładajem pa-biełarusku, i ŭsio heta, dubovaje takoje, niajakasnaje potym faktyčna traplaje na papieru. Ja pastanaviŭ ačyścić hety słoŭnik ryfmaŭ ad rasiejanizmaŭ. I potym, kali zalez, zahłybiŭsia ŭ hetuju temu, zrazumieŭ, što takoje našaja zrusifikavanaść, ja prosta žachnuŭsia. I voś ciaham apošnich piaci hadoŭ ja składaŭ "Słoŭnik rasiejska-biełaruskich adpaviednikaŭ". Heta nia prosta "słova-słova", tut moža być ustojlivy vyraz, niejki skaz, vytančanaść niejkaja moža być nie zaŭvažanaja. Nu choć takim čynam ja siabie pryvučaŭ, dałučaŭ da sapraŭdnaj movy. Viadoma, škada: taki słoŭnik musiŭ źjavicca jašče dvaccać hadoŭ tamu. Tamu što, skažam, ja ŭžo da maładoha pakaleńnia nie naležu, ale navat našaje pakaleńnie ŭžo nie źjaŭlajecca nośbitam sapraŭdnaj biełaruskaj movy. Tolki ŭ nas jana na słychu jašče, skažam, a tvajo haradzkoje pakaleńnie - jano knižnaje, jano vyvučaje heta niejkim čynam. Prynamsi, my jašče čuli niešta. Ja-ž sam viaskovy čałaviek.

**— Ci vialiki atrymlivajecca słoŭnik?**

— Nu chiba na tryccać tysiačaŭ słoŭ budzie. Ja štodnia pracuju nad hetym słoŭničkam. Darečy, heta nie maje ŭłasnyja napracoŭki, tamu što hetaja tema chvaluje šmat kaho: i admysłoŭcaŭ, i prostych ludziej. Zdabytki ichnyja jość u internecie. I tamu ja vykarystoŭvaju jak svaje ŭłasnyja, tak i ichnyja napracoŭki.

## Terra incognita biełaruščyny

**— Ci nie baiciosia vy takim čynam, pa-pieršaje, nasycić movu dyjalektyzmami dy ekzatyzmami, a pa-druhoje, vydumać adpaviedniki, jakija nie isnavali?**

— Našaja biełaruskaja mova raźvivałasia pad uciskam rasiejskaj movy, to bok nie naturalna. Kali, naprykład, ujavić sabie, jakoj była-b našaja mova biez rusifikacyi... U pryncypie, u mianie jość mara ŭjavić sabie, jak-by naturalna pajšła našaja mova, jakoj-by jana była. Mnie zdajecca, što našaj movaznaŭčaj biełaruskaj bracii vielmi aściarožna treba čaplać hetyja jarłyki: heta dyjalektyzm, heta sastarełaje i hetak dalej. Heta terytoryja, jakaja absalutna nieviadomaja. Voś i dla biełaruskaj movy dyjalektyzmam moža być absalutna lepšaje i naturalnaje słova, čym zafiksavanaje jak užyvanaje, jakoje zaraz ličycca naturalnym. U pryncypie dobra było-b stvaryć takuju madel našaj movy, jakoj-by jana była sionńia, kali-b mova nie była pad uciskam susiedniaj movy, kali-b nie było rusifikacyi. Praz svoj słoŭnik ja imknusia heta zrabić, tak što ja nie bajusia hetaj ekzotyki. Ja paet. Niejkaj slavy movaznaŭcy nia treba. Ja prosta takija eksperymenty rablu dla siabie. Niejak cikava ŭsio heta. Zredku dazvalaju sabie stvaryć niejki navatvor, svoj, ułasny. Čužyja naturalnyja navatvory ja taksama zaciahvaju. Usio, što ja biaru, - heta z čytańnia naturalnaj biełaruskaj litaratury, biełaruskaj klasyki i sa słoŭnikaŭ taksama. Tak što vydumvańnia niejkaha ŭ maim słoŭniku praktyčna niama.

**— Ci možacie pryvieści prykład jakoha-niebudź svajho navatvora?**

— Ja dumaŭ, jak perfaratar nazvać,ź jakim ja kožny dzień pracavaŭ. Vyrašyŭ nazvać "dziurabur": jon i buryć, i dzirki robić. Jašče, naprykład, studencki internat, ja dumaju, najlepš nazvać "hamarnia". Naohuł hamarnia - heta maleńki miedziepłavilny zavod. Tam uvieś čas tam niešta hudzie, źvinić, i ŭ hetym słovie adčuvajecca homan. Užo zabyłasia, što hamarnia - heta miedziepłavilny zavod, heta takoje niaŭtulnaje, vialikaje pamiaškańnie, to ja internat nazvaŭ-by "hamarnioj". Albo "stalmašnia". Heta tam, dzie naładžvalisia kalosy. Ale ŭ "stalmašni" jość słova "stal". I čamu nam aŭtaservis nie nazvać "stalmašniaj"? Zaraz, darečy, pryjšoŭ čas, što ja viartaju niejkija rasiejanizmy znoŭ u biełaruskuju movu. Naprykład, "charošy", u sensie "pryhožy". Spačatku ja byŭ vielmi taki katehoryčny, a zaraz pakrysie niešta viartajecca ŭ słoŭnik. Chodzić pra toje, što hałoŭnaja ciapierašniaja niebiaśpieka dla biełaruskaj movy - heta rusifikacyja, a nie palanizacyja. Zrazumieła, što ja nia budu kazać, što ja vorah takich słoŭ, ale, naprykład, kali składaju svoj słoŭnik, ja absalutna nie bajusia palanizmaŭ i tym bolš ukrainizmaŭ. Dojdzie čarha i da palanizmaŭ, tamu što, sapraŭdy, takaja źjava jość i taja mova, jakaja rabiłasia sto hadoŭ, rabiłasia taksama

i ŭ polskamoŭnym asiarodździ intelihiencyi, jakaja mieła polskuju adukacyju i pierachodziła ad polskaj movy ŭ biełaruskuju movu. Tamu tendencyja hetaja da sionniašniaha dnia zachavałasia, i šmat palanizmaŭ praz tuju intelihiencyju, jakaja žyła tut, u Vilni, zaciahnuta było: vielmi šmat polskich vyrazaŭ, formaŭ, marfalohii. Ale z hledzišča sionniašnaha dnia treba ŭ pieršy čarod treba vyrašyć pytańnie rusifikacyi, a nie palanizacyi. Naprykład, u mianie daŭniaja praktyka ŭ klasyčnym pravapisie, i dla mianie z klasyčnym pravapisam, dziakujučy tamu, što prosta takaja moŭnaja praktyka, ja ŭžo adčuvaju siabie naturalna ŭ hetym śviecie. Mnie zdajecca, što tyja litaratary našyja, jakija majuć inšuju praktyku, u narkamaŭcy, naturalna siabie adčuvajuć u tym śviecie. Tak što tut ja nie supraćpastaŭlaŭ-by hetyja pravapisy. Chaj budzie tak, i chaj budzie hetak. Moža być, załataja siaredzina źjavicca niekali, ale lepš-by takich sprečak i nia vieści. U kaho jakaja praktyka, chaj toj takim pravapisam i karystajecca. Ja sychodžu z taho, jak mnie ŭtulna. Paprostu na sionnia mnie ŭtulna z klasyčnym pravapisam. Kali mianie vyciahnuć nazad u narkamaŭku, tam ja siabie budu adčuvać niaŭtulna.

**— Apračа dvuch pravapisaŭ, biełarusy majuć i dźvie hrafičnyja systemy: kirylicu j łacinku...**

— Łacinka – naturalnaja źjava ŭvohule ŭ biełaruskaj movie. Niejkaja tradycyja ŭžo skłałasia na praciahu hetych sta hadoŭ. Heta taksama, jak i sprečki pa pravapisie, – prykładna taki samy ŭzrovień. Heta nieistotna, i nia treba na hetym ciapier zacyklivacca. Uzbeki pierajšli zaraz, naprykład, na łacinku. A dla mianie našaja tradycyja – heta biełaruskaja kirylica. Adnaznačna.

**— Voś u paraŭnalna maleńkim horadzie Vilni isnuje cełу moŭny pluralizm. Poruč z narkamaŭkaj i taraškievicaj, łacinkaj i kirylicaj voś užo bolš za stahodździe volna siabie adčuvaje i specyfičnaja "tutejšaja" mova. Pra što heta mahło-b śviedčyć?**

— Dla mianie – chutčej pra źnikniennie. Tut vielmi lohka pierajści na palityčnuju temu. Chodzić pra toje, što dziaržava našaja biełaruskaja sionnia – heta praktyčna kalonija Rasiejskaj Imperyi. Tam niama paprostu niejkaj sapraŭdnaj nacyjanalnaj palityki. Tam usio pabudavana na źniščeńni nacyjanalnaj kultury, movy, heta ja kažu zvyčajnyja rečy, tak jano jość. Tamu ŭ hetych umovach, naturalna, biełaruskaja mova budzie raźvivacca, napeŭna, jak i ŭsie inšyja pracesy, jakija iduć u rezervacyi. Nośbitaŭ biełaruskaj movy, to bok ludziej, jakija čytajuć pa-biełarusku, sionnia heta, moža być, niekalki dziasiatkaŭ tysiačaŭ. A tych, jakija čytajuć mastackija tvory, moža, dvaccać tysiačaŭ. Chacia voś ja taksama nia šmat čytaju, asabliva prozu. Ja naohuł biełaruskuju niašmat čytaŭ, bolš paeziju. Dyk voś, kali ja pačaŭ stvarać hety svoj słoŭničak, to padumaŭ: "Boža moj, jakaja ŭ nas cudoŭnaja sučasnaja biełaruskaja proza i paezija, na jakim uzroŭni – prosta cud!". Pry tym, što, pa-pieršaje, niama nijakaj litaraturnaj krytyki. Pa-druhoje, niama čytača. Voś i kultura, jak pierad skonam śviečka apośni raz milhanie pierad skonam, tak, moža być, i sučasnaja biełaruskaja paezija, litaratura... Barani Boh, kab hetak było, ja nie čakaju sapraŭdy takoha, ale nastolki źziaje, nastolki vysoki ŭzrovień našych piśmieńnikaŭ, što robicca vuścišna.

**— Nadoječy ŭ Biełarusi źjaviłasia moda na moŭnyja kursy. Ci vyžyvie mova ŭ hetych novych umovach?**

— Zvažajučy na heta – vyžyvie. Kali pačynałasia Adradžeńnie, ja śviedamym biełarusam zrabiŭsia ŭ 1978 hodzie. Amal tryccatnik mnie ŭžo byŭ. I, moža być, sto nacyjanalistaŭ tady było ŭ Biełarusi, i my pajmienna viedali kožny kožnaha, kali nie asabista, dyk zavočna viedali. Kali ŭ toj momant uziali-b hetuju sotniu ludziej, u tym liku j Paźniaka, źniščyli – nia viedaju, što było-b, ale niedaacanili "nacyjanalistyčnuju zarazu", i jana pačała raspaŭsiudžvacca. Voś i toje, što sionnia jość tendencyja ŭnutry moładzi – heta jakraz toj faktar, što možna skazać: biełaruskaja mova nie zahinuła, i narod biełaruski budzie žyć. Heta vielmi jaskravaja tendencyja. Ja dumaju, što jana niaspynnaja.

## Nia mieč i ščyt baroniać movu, a daskanały tvor

**— Biełaruski bard Viktar Šałkievič u adnym sa svaich tvoraŭ śpiavaje, što "...narod užo nia vieryć ŭ abiacanki-cacanki, nie idzie lepšaj doli šukać. Hodzie znoŭ jaho pchać pad čarhovyja tanki, pad čarhovyja štandary ŭciskać". Ci sapraŭdy hodzie ŭciskać narod pad štandary? Vy voś hatovy pad huki turynaha roha stać pad "bieły ściah z čyrvonym pasam".**

— Heta mnie nahadvaje dyjaloh pamiž paetam i vajarom u znakamitym vieršy Cypryjana Norvida. Vajar źviartajecca da paeta: "Słuchaj, kaža, treba baranić movu. Tam stepavych koniaŭ čucion tupat. Mova ŭ niebiaśpiecy, treba jaje baranić miečam". A paet kaža, što movu treba baranić nia miečam, a daskanałym tvoram. Ja liču, ciapier taki čas, što kali, naprykład, u vaśmidziasiatyja hady nacyjanalist pavinien byŭ być i palitykam, i paetam, i hramadzkim dziejačom, i hetak dalej, to ciapier dastatkova asobaŭ, dastatkova ludziej, kab raźvieści biełaruskaje žyćcio pa sferach. Palityk chaj budzie palitykam, paet – paetam, hramadzki dziajač chaj budzie hramadzkim dziejačom. Tamu Šałkievič maje racyju, što taja pazycyja, kali vajar uvieś čas kaža, što, maŭlaŭ, davajcie budziem baranić movu miečam, toj čas užo minuŭ. Zaraz, dziakuj Bohu, bolš-mienš cyvilizavanym biełaruskaje hramadztva robicca, i kožny pačynaje zajmacca tym, čym jon pryrodžana pavinien zajmacca. Uva mnie taksama ŭžo, kali ja čuju pra movu, pra kulturu, jakaja hinie, pra biełaruskija nacyjanalnyja symbali, patryjatyzm užo nie zaharajecca. Naadvarot, litaralna ŭčora-pazaŭčora try dni čytaŭ Uładzimira Žyłku. Voś čym treba zajmacca! Žyłka zusim nieviadomy paet. Heta talent, jaho druhim Bahdanovičam nazyvali ŭ svoj čas. Jon sapraŭdy paŭtaryŭ jaho bijahrafiju, jaho los, vydatny paet, mahutny paet. A Biełaruś treba ratavać zaraz prafesyjna. Treba być prafesyjanałam u niejkaj sfery i prafesyjanalna jaje rabić. I čas ad času sustrakacca. Mienš hetych palityčnych temaŭ. Dobra, što Kupalle tut pravodzicca, Kalady... Treba być biełarusami, treba sustrakacca, treba čynić niejkija biełaruskija ahulnyja imprezy. Dla dušy pavinna być niešta... I mienš hetaj palitykaj zajmacca, palitykanstvam. Treba, kab umovy byli takija, ludzi, jakija prosta turbocilisia-b pra ŭsio, – heta toje, čym zaraz zajmajucca hramadzkija dziejačy. I prosta padtrymlivać tyja samyja tradycyi, što i sto hadoŭ tamu. Kab byli placoŭki dla prafesyjnaj dziejnaści, dzie-b hučała biełaruskaja mova, dzie-b jana była zapatrabavanaja. Ja, naprykład, zaraz nie chaču być hramadzkim dziejačom. Niama času prosta. To bok pryjści niekudy, pabyć tam i paśpiavać "My vyjdziem ščylnymi radami" – ja pryjdu i paśpiavaju. A zajmacca hetym treba prafesyjna. Ja zajmaŭsia hetym, kali treba było padtrymać hazetu "Ruń": ja pracavaŭ redaktaram tady, u mianie była dumka raskrucić hetyja fondy na prajekty, a z hetych prajektaŭ mieć hrošy dla vydańnia biełaruskich knižak, i niešta atrymlivałasia. Ale ja nie hramadzki dziajač. Dla hramadzkaj dziejnaści treba hrošy. Hrošy ź Biełarusi na biełaruskuju hramadzkuju dziejnaść atrymać niemahčyma. Tamu što niama nacyjanalnaj palityki. Kali-b nacyjanalnaja palityka była, to tut u Vilenskim krai, u Vilni možna było-b dzivosy zrabić za hetyja dvaccać piać hadoŭ niezaležnaści. Ale hetaha nie adbyłosia. My apynulisia ŭ navat horšym stanovišču, čym byli za dvaccać piać hod dahetul. Tamu dla prafesyjnaj hramadzkaj dziejnaści treba hrošy. Hrošy možna ŭziać tolki z zamiežnych fondaŭ. Treba pahadzicca, što my tut etničnaja mienšaść, nijakija my tut nie aŭtachtony, tubylcy, pahadzicca z hetym, i čysta eŭrapiejskimi metadami brać hrošy na raźvićcio biełaruskaj etničnaj mienšaści tut u Vilni. Hetym pavinny zajmacca prafesyjanały, hramadzkija dziejačy. Tady, kali źjaviacca hrošy, za ich možna budzie zrabić bolš cikavyja rečy.



# Moj šlach u Vilenskuju Biełaruskuju Himnaziju

***Vincent ŽUK-HRYŠKIEVIČ***

*Vincent Žuk-Hryškievič (1903, Budsłaŭ - 1989, Taronta, Kanada) - znakamity palityčny dziajač, vykładčyk, publicyst.*

*Vilenskuju Biełaruskuju Himnaziju zakončyŭ u 1922 h.*

*U 1926 h. - dyplom Praskaha, u 1932 h. - dyplom Vilenskaha ŭniversytetaŭ.*

*1939-42 hh. - viazień stalinoŭskich turmaŭ i lahieroŭ.*

*1942-45 hh. - žaŭnier armii hienerała Andersa.*

*Ad 1946 h. u Anhlii, ad 1950 h. u Kanadzie źjaŭlaŭsia aktyŭnym dziejačom biełaruskaj emihracyi.*

*1952 h. - doktar filazofii Ataŭskaha ŭniversytetu.*

*1970-82 hh. - Staršynia Rady Biełaruskaj Narodnaj Respubliki.*

## Abviestka, jakaja zrabiła pieravarot

Niejak pierad Vialikadniem u 1920 hodzie trapiła mnie ŭ ruki abviestka ab tym, što ŭ Vilni ŭžo ad lutaha miesiaca 1919 hodu pracuje 1-aja Vilenskaja Biełaruskaja Himnazija. Hety zialony listok papiery sa zvyčajnaj abviestkaj zrabiŭ cełу pieravarot u majoj dušy, bo ŭvaskrasiŭ stračanuju nadzieju na ŭznaŭleńnie navuki dy jašče ŭ svajoj biełaruskaj himnazii.

Sprava ŭ tym, što ad vosieni 1919 hodu byŭ u nas novy akupant, palaki, jakija akazalisia nia lepšymi, jak papiarednija akupanty, niemcy, i pieršyja - balšaviki. Jany, što praŭda, nia hrabili majontkaŭ, kaściołaŭ, cerkvaŭ, jak balšaviki, ale pazačyniali biełaruskija škoły, u tym liku j Biełaruskuju Himnaziju ŭ Budsłavie, dy zacisnuli ŭsiakija prajavy biełaruskaha žyćcia pad pratekstam zmahańnia z balšavizmam. Pad tym ža pratekstam jany ŭziali ŭ mocnyja abcuhi nasielnictva. Rabili častyja vobyski ŭ sialanaŭ - asabliva aktyŭnych biełarusaŭ, aryštoŭvali aby za što, zabirali avios i siena, śviniej i kurej. Najbolš daŭsia ŭ znaki 13-ty połk ułanaŭ. Ułany byli postracham viaskovaha žycharstva. Dajšło da taho, što vioski vystaŭlali stałyja varty, jakija davali znać, kali na niebaschile pakazaŭsia ułan. Usie tady ŭciakali ŭ najbližejšy les, jak kaliś pierad tatarami, honiačy pierad saboj praz harody svojskuju žyviołu. U pieršuju čarhu ŭciakali dziaŭčaty j maładzicy, za imi - mužčyny. U chatach zastavalisia staryja j małyja. U našym miastečku, dzie byŭ stały pastoj ułanaŭ, jak ściamniałasia, nichto nia śmieŭ vyjści na vulicu.

Polska-balšavicki front byŭ, što praŭda, užo daloka, niedzie kala miastečka Bierazina, ale paviety Vialejski j Dziśnienski byli jašče ŭ rukach vajskovych uładaŭ. Z cyvilnych arhanizacyjaŭ tolki h. zv. "Straž Kresova" była dziejnaj. Jejnyja struktury źbirali schody sialanaŭ i raschvalvali bahaćcie j kulturu Polščy dy nahavarvali moładź, kab ustupała ŭ "Straž Kresovu". Metaj arhanizacyi było palanizavańnie biełaruskich ziemlaŭ, jana była ŭ ciesnym supracoŭnictvie z polskim vojskam.

Pry takoj ciažkaj zadušlivaj atmasfery abviestka Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii stałasia dla mianie puciavodnaj zorkaj. Mnie za ŭsiakuju canu treba było dabracca da Vilni. Ale jak? Čyhunačnaje spałučeńnie ź Vilniaj było nаładžana, ale ciahniki chadzili redka j to tolki vajennyja. Cyvilnaha ruchu jašče nie było.

Tolki iz specyjalnym dazvołam vajskovych uładaŭ niekatorym abšarnikam dy roznym paniusiam udavałasia jeździć ciahnikom. A na što-ž spadziavacca moh ja, 17-hadovy viaskovy chłapiec, usim viedamy, jak śviadomy biełarus, što palakami traktavaŭsia raŭnaznačna z balšavikom? Tknuŭsia ja ŭ žandarmeryju, kab dastać propusk i bilet u Vilniu, - dyk čuć cełу vyjšaŭ. Pačali vypytvać: da kaho, čamu, pašto? A piechatoj nia pojdzieš, daloka - 180 kilametraŭ z hakam, dy zatrymajuć dzieś pa darozie, nazavuć balšavickim ahitataram, pasadziać. I kaniec školnaha hodu nie za harami, i hod prapadzie. Ja j tak byŭ zapoźnieny z navukaj, mieŭ tolki čatyry klasy. Na ŭsiaki vypadak nie pakidaŭ navuki, samatuham i z bolšaha prajšoŭ matarjał za 5-uju klasu. Niejkaja nutranaja siła cisnuła mianie da navuki, hnała napierad. (Padručniki ja mieŭ, što nie chapała - dastaŭ. Z matematykaj dy inšymi pradmietami ja davaŭ sabie rady. Niapeŭny byŭ z francuskaj i niamieckaj movami, bo nie było kamu papravić vymovu j pisańnie, ale hramatyku viedaŭ). Ale jak vyrvacca?



Raźviazka pryjšła raptoŭna j ź niečakanaha boku. Jakraz na Vialikdzień spatkaŭ ja susiedku, pryhažuniu Malvinu, ź jakoj padflirtoŭvaŭ instruktar iz "Stražy Kresovaj".

— Ja jedu ŭ Vilniu! - z ščaślivaj uśmieškaj abvieściła dziaŭčyna.

— Kali? Jakim čynam? - spytaŭsia ja. - Cyvilnych-ža nie puskajuć!

— "Straž Kresova" arhanizuje ekskursiju ŭ Vilniu na ŭračystaje adznačeńnie ŭhodkaŭ vyzvaleńnia Vilni ad balšavikoŭ. Prajezd darmovy: tolki ježu treba mieć z saboj.

Mnie aż horača zrabiłasia ad Malvininaj viestki. "Hetkim usiudy dastupna, a mnie, kab vučycca, dyk usie darohi začynieny!" - padumaŭ ja z horyčču. Ale paźniej razdumaŭ, što j sam moh by niejak ukłučycca ŭ hetuju ekskursiju, niachaj sabie j "Stražy Kresovaj". Na hetym i stała. Malvina mnie pamahła. Praz try dni my jechali ŭ Vilniu.

## U Vilni

Pryjechali kala paŭdnia. U Vilni ja nikoli nia byŭ. Na vulicach było poŭna ludziej i vielmi šmat polskich žaŭnieraŭ. Sa stancyi jšli my hrupaj kala dvaccaci čałaviek. Trymalisia razam, kab nie razhubicca. Prajšli praz Vostruju bramu i, jak usie prachodziačyja, źniali šapki, zatrymalisia j pieražahnalisia. Ja zdahadaŭsia, što heta j jość Vastrabramskaja vulica, i šukaŭ vačyma numaru 9. Prajšoŭšy kusok vulicy, ja zaŭvažyŭ ź levaha boku pierš vialikuju tablicu z nadpisam "1-aja Vilenskaja Biełaruskaja Himnazija", a paśla numar 9. Serca majo zakałaciłasia ad radaści: voś majo pryznačeńnie, voś maja meta! Ale ja nia moh adbicca ad hrupy. Trymaŭsia jaje praz subotu j niadzielu. Tolki viečaram u niadzielu zajaviŭ kiraŭniku ekskursii, što jdu da znajomych, u katorych zatrymajusia, mahčyma, tydzień, a nie dyk i stała, bo nakloŭvajecca rabota. Skazaŭ, kab mianie nie čakali.

Ad hetaha času ja ŭzyšoŭ na samastojny žyćciovy šlach. Pačuŭsia nadziva lohka j samaŭpeŭniena. Čužy dla mianie j nieznajomy tady horad, jak i ŭsia niapeŭnaja budučynia, ničym mianie nie adstrašali. Moža tamu, što ja viedaŭ, čaho chaču j da čaho imknusia. Ja byŭ pierakonany, što traplu ŭ biełaruskaje asiarodździe dy znajdu tam svajo miejsca j zdabudu aśvietu. Mieŭ adrasy niekalkich susiedziaŭ z Budsłava, a pieradusim adras Edvarda Budźki, jaki padtrymaŭ nie adnaho biełarusa, što chacieŭ vučycca. Da jaho ja j skiravaŭsia. Pryniaty byŭ, jak svoj, jak rodny. Tymčasova zatrymaŭsia ŭ siamji Budźkaŭ, a paźniej, pakul uładziŭsia na pracu, spaŭ u kancylaryi Vilenskaha Sajuzu Kaaperatyvaŭ, da ŭpravy jakoha naležyŭ i moj słaŭny Edvard Budźka.

*Praciah u Nr. 80*

*Алег МІНКІН*

### 8. Лодкі

*А. Аблажэю*

Не сумуй, што не вяснуем,
Што мацнее халадок,
Што ў вачох снуецца змрок:
Усё роўна павяслуем

Мы на лодках каляровых
Праз тунэля жарало
У вясёлае кубло
Безьцялесых і здаровых.

### 9. Рыфмар

Твой прытул, трыпутнік,
Як і мой – дарога…
Вечны ты пакутнік,
Але-ж бачыў многа.

Глянь, бялюткай сьцежкай
Чорная кабета
Ў змрок вядзе з усьмешкай
Рыфмара-паэта.

Хоць ён гольма голы,
Але ніштаваты,
І такі вясёлы,
Бы на неба ўзяты.

### 10. Эпітафія

Навошта гэтак ты хварэў на вершы,
Ня спаў начмі, трымцеў, занепадаў
Сягаў у сьвет, жахліва-нетутэйшы,
А тут сам пра сябе зусім ня дбаў?

Няўжо, каб пры размове двух эстэтаў
Адзін, з пасьмешкай, у другога запытаў:
– А Хведар Ніцка… Ведаеш, хто гэта?
– Так, быў такі. Здаецца… вершыкі складаў!




Згуртаваньне беларускай моладзі Вільні падрыхтавала перавыданьне кнігі Лявона Луцкевіча "Вандроўкі па Вільні". Першае яе выданьне ўбачыла сьвет праз год пасьля сьмерці яе аўтара – Лявона Антонавіча, які заўчасна пакінуў нас у 1997 годзе. Тое выданьне хутка разышлося па руках і ўжо стала бібліяграфічнаю рэдкасьцю.

Згуртаваньне беларускай моладзі Вільні на працягу некалькіх апошніх год робіць намаганьні перавыдаць кнігу. Цяпер гэты праект блізкі да завяршэньня. Ужо зроблена шмат працы: кніга перакладзеная на літоўскую мову і будзе выдадзена ў двух варыянтах – па-беларуску й па-літоўску. Удакладнены тэкст, зробленыя новыя фотаздымкі, якія былі ў першым выданьні чорна-белага колеру. Зьмешчаныя новыя здымкі адрэстаўраваных і адноўленых будынкаў, дзе зьявілася шмат шыльдаў, прысьвечаных беларускім дзеячам, зьявіўся дадатак, дзе выпускнік Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту ў Вільні Кірыл Атаманчык расказвае пра сёньняшняе культурна-грамадзкае жыцьцё беларускай Вільні.

Кніга будзе мець 156 старонак на мелаванай паперы ў цьвёрдай вокладцы. Макет кнігі створаны. Цяпер ідуць пошукі сродкаў на аплату друку. Згуртаваньне беларускай моладзі Вільні будзе вельмі радае кожнаму ахвяраваньню. Паводле папярэдніх падлікаў, кніга будзе каштаваць ад 10 да 13 эўра. Твор можна будзе замовіць у рэдакцыі газэты "Рунь".

Кантактныя дадзеныя Згуртаваньня беларускай моладзі Вільні для ахвяраваньняў:

AB SEB bankas
Banko kodas 70440
a.s. LT257044000068622010

## НАМ ПІШУЦЬ

...Для мяне цікавы быў артыкул пра нашага слаўнага Францішка Скарыну. Наогул віленскія весткі ёсьць цікавыя. Я памятаю, як "Наша Ніва" была рэдагаваная ў Вільні: газэта была больш блізкай да майго думаньня, і правапіс быў адпаведны.

Цяпер Беларусь як дзяржава прабыла ўжо 25 гадоў вольна з савецкімі назовамі вуліцаў і шмат іншым. Нават сьцяг чырвона-зялёны. А "гэрб"... я не магу сабе ўявіць, што гэты "гэрб" мае значыць і хто яго прыдумаў, нідзе я не чытаў.

Беларусы, што жывуць бліжэй за Захаду, маюць зусім інакшыя думкі. Вось будзем чакаць, што людзі пачнуць паводзіцца і думаць пра будучыню, як гэта адбываецца ў Заходняй Эўропе...

З найлепшымі пажаданьнямі,
Кастусь Верабей
28.10.2016
Фармінгдэйл, ЗША

РУНЬ Беларуская газэта ў Вільні
Baltarusių laikraštis Vilniuje
Выдаецца з 1997 году
Выходзіць нерэгулярна
Друкуецца кірыліцаю (клясычным правапісам) і лацінкаю
Выдавец: Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі"
Адрас рэдакцыі:
LT-10323 Vilnius-55, Smelio 23-26
Тэлефоны: + 370 5 261 62 24,
+ 370 604 625 91
e-mail: hazetarun@gmail.com
**Сяржук Гаўрыленка** – рэдактар
**Алег Мінкін** – літаратурны рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
Наклад **500**
Адрас для допісаў:
**"Рунь", LT-10323 Vilnius-55, Smelio 23-26, Lietuva – Lithuania**

НІЗКІ ПАКЛОН
ЗА АХВЯРАВАНЬНІ
Вікторыі Мурашкене, Валянціну Стэху, Кацярыне Вініцкай і інш.

Нумар надрукаваны пры падтрымцы Дэпартамэнту нацыянальных меншыняў пры Ўрадзе Літоўскай Рэспублікі.

Šio laikraščio leidimą iš dalies finansuoja Tautinių mažumų departamentas prie Lietuvos Respublikos Vyriausybės.